Ярмоленка, А. С. Мадэрнісцкі падыход у сучаснай украінскай гістарыяграфіі да «нацыянальнага адраджэння» XIX ст. / А. С. Ярмоленка // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 228 – 232

**А. С. Ярмоленка**

# МАДЭРНІСЦКІ ПАДЫХОД У СУЧАСНАЙ УКРАІНСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ ДА «НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ» XIX ст.

Навуковыя падыходы да праблемы ўкраінскага нацыятварэння/адраджэння XIX ст. у складзе Расійскай імперыі ў сучаснай украінскай гістарыяграфіі губляюць ранейшую адносную згуртаванасць. Як наступства выкарыстання асобнымі аўтарамі мадэрнісцкай парадыгмы для новага прачытання нацыянальнага фактару ў гісторыі Украіны, складваецца сітуацыя, цікавая пры поглядзе з беларускай перспектывы. На наш погляд, айчынная гістарыяграфія мусіць паставіць аналагічную задачу: аб актуальнасці асэнсавання і творчага выкарыстання дасягненняў еўрапейскай і амерыканскай нацыялогіі ў беларускай гістарыяграфіі. На такую неабходнасць звяртае ўвагу, у прыватнасці, Дз. Караў [1, с. 29]. Таму прааналізуем спробы рэканцэптуалізацыі «ўкраінскага нацыянальнага адраджэння» падчас пазначанага мадэрнісцкага перагляду (у цэлым жа «рэвізіянізм» ахоплівае значна шырэйшае кола гістарычнай праблематыкі).

Абрысы мадэрнісцкай тэорыі нацыі, а менавіта тое, што фарміраванне нацый адбылося ў эпоху прамысловага перавароту, урбанізацыі, Рэфармацыі, Асветніцтва і Вялікай французскай рэвалюцыі, даволі добра вядомыя на постсавецкай прасторы. Шырока цытуецца, напрыклад, вызначэнне Б. Андэрсанам нацый як палітычных супольнасцей, уяўленых у якасці абмежаваных і суверэнных [2, с. 30—32]. Таксама папулярнае меркаванне Э. Гелнэра аб тым, што на этапе стадыяльнага пераходу ад традыцыйна-аграрнага да мадэрна-індустрыяльнага грамадства патрэба ў «высокай культуры» рэалізуецца шляхам спараджэння нацый нацыяналізмам [3, с. 126—127]. Справа за пераходам ад спарадычнага ўзгадвання заходніх спецыялістаў да верыфікацыі эўрыстычнай каштоўнасці прапанаваных схем (у нашым выпадку) на ўкраінскім матэрыяле.

Безумоўным пратаганістам мадэрнісцкай інтэрпрэтацыі гісторыі нацый з'яўляецца доктар гістарычных навук, загадчык аддзела навейшай гісторыі і палітыкі Інстытута гісторыі Украіны НАН Украіны Георгій Касьянаў. Яму належыць агляд сучасных тэорый нацыі і нацыяналізму і спроба іх выкарыстання ў дачыненні да ўкраінскага выпадку, папулярызацыя праз пераклад з англійскай мовы работ А. Субтэльнага (у суаўт.), Р. Шпарлюка, Э. Гелнэра (адпаведна: Субтельный О. «Украина. История»; Шпорлюк Р. «Комунізм і націоналізм. Карл Маркс проти Фрідріха Ліста», «Імперія та нації»; Ґелнер Е. «Нації та націоналізм»). Даследчык лічыць, што найбольшы плён будзе мець ужыванне «камунікатыўнай» тэорыі нацыі К. Дойча (аднаго з асноўных «фундатараў» мадэрнісцкага падыходу) і разумення нацыі як «уяўленай супольнасці», як і іншых тэорый, што апелююць да сферы «суб'ектыўнага» пры разглядзе гэтага феномена [4]. Такія высновы робяцца, зыходзячы з усведамлення гістарычнай зменлівасці і неадназначнай ролі ва ўкраінскім нацыятварэнні такіх «аб'ектыўных» характарыстык, як мова, рэлігія, тэрыторыя, адзінства эканамічнага жыцця.

Адпаведна, этнагенетычныя варыянты нацыягенезісу, дамінуючыя ва ўкраінскай гістарыяграфіі (як прыклад, прыведзеныя версіі Я. Дашкевіча, Я. Ісаевіча і інш.), былі раскрытыкаваныя. Цікава, што пазнавальная вартасць метадалогіі Э. Сміта і І. Лысяка-Рудніцкага (якая, на думку Г. Касьянава, была зыходным пунктам пэўных разважанняў украінскіх пры-

**Ермоленко Антон Сергеевич** — аспирант кафедры истории России Белорусского государственного университета

мардыялістаў [1]) пад сумнеў у цэлым не ставілася, але пярэчанні выклікалі інтэрпрэтацыі — узаемавыключныя высновы ды хібная рэтрансляцыя заходніх уяўленняў аб прыродзе сувязей пары «этнас—нацыя» (асабліва пастуляванне іхняй тоеснасці). У публікацыі, надрукаванай неўзабаве па выхадзе манаграфіі, Г. Касьянаў сцвярджае, што дамарослыя ўкраінскія прымардыялісцкія канцэпцыі ёсць нішто іншае, як аднаўленне нацыянальнага дасавецкага міфа з наступнымі «радавымі плямамі» — абсалютызацыяй бесперапыннасці этнанацыянальнага развіцця, «тэрытарыяльным сіндромам», націскам на стабільнасці біёлага-антрапалагічных і культурных рысаў, максімальным падаўжэннем гісторыі ўласнага этнасу разам з прэтэнзіямі на першынство ў спрэчцы за спадчыну Кіеўскай дзяржавы, ідэнтыфікацыяй нацыі з мовай на працягу ўсяго вядомага часу [5, с. 88—89].

Г. Касьянаў канстатуе адсутнасць якасных мадэрнісцкіх тлумачэнняў станаўлення ўкраінскай нацыі, бо лічыць непрадуктыўным пошук у гэтай галіне з выкарыстаннем напрацаванага за савецкім часам тэарэтыка-метадалагічнага апарата, бо гэты апарат інертны ў адносінах да артадаксальнага марксізму, захоўвае традыцыйны інструментарый — класавы падыход, эканамічны дэтэрмінізм, а да таго ж абмежаваны сталінскім вызначэннем нацыі. У сваю чаргу, перайманне Я. Грыцаком пазнавальнай мадэлі І. Лысяка-Рудніцкага, дзе адбываецца ўзгадненне прымардыялізму з мадэрнізмам (вызнанне існавання «нацыі да нацыяналізму»), характарызавана як слушнае. Падтрыманы таксама падыход, згодна з якім паказаны не толькі ўкраінскі «нацыянальны праект», а яшчэ іншыя, Я. Грыцак не імкнецца апісваць украінскую гісторыю як паслядоўнасць катастроф [6, с. 7—8]. Пазней Г. Касьянаў папракаў Я. Грыцака перыядычным вяртаннем да тэлеалогіі ды ідэі іманетнай прысутнасці ўкраінскай нацыі.

Абапіраючыся на высновы замежных украіністаў (П. Магочыя і Б. Краўчанкі), аўтар «Тэорыяў...» сцвярджае, што ўкраінскім дзеячам канца XVIII — пачатку XX ст. давялося не адраджаць, але канструяваць нацыю ў якасна новых фармулёўках, ад уласнага ўяўлення аб сабе як аб нацыі да станаўлення нацыянальнай свядомасці. Натуральным наступным крокам ёсць касьянаўскае непрыманне канцэпцыі «нацыянальнага адраджэння» як пазычанай з ідэалагічнага арсенала. Нягледзячы на гэта, ён вымушаны карыстацца ўкаранёным ва ўкраінскай гістарыяграфіі азначэннем (дарэчы, як і скарэктаванай схемай нацыянальнага адраджэння так званых «недзяржаўных» народаў М. Гроха), але пашыраючы яго межы і на XX ст. як двойчы перарваны працэс, што развіваецца цыклічна.

Г. Касьянаў мае рацыю ў тым, што ў арганічнасці «нацыянальнага адраджэння» ва Украіне мала хто сумняваецца. Як вынікае з яго роздумаў, даспадобы кіеўскаму гісторыку прыйшлося б афармленне плыней «мадэрністаў» і «прымардыялістаў» [5, с. 96]. Замест гэтага даводзіцца фіксаваць кансэнсус унутры цэха гісторыкаў аб адмове ад перагляду асноўных пастулатаў трактоўкі «ўкраінскага нацыянальнага адраджэння» ўзору стогадовай даўніны: узнікненне ўкраінскай нацыі ўяўляецца большасці гісторыкаў запраграмаванай з’явай, а ўсё, што перашкаджала такому працэсу, — штучным.

Друкуючыся на тую ж тэму за межамі Украіны, Г. Касьянаў меней стрыманы ў ацэнках «поп-патрыятычнай» гістарыяграфіі знаходжання ўкраінскіх зямель у складзе Расійскай імперыі: «Якія-небудзь маралізатарскія развагі з нагоды відавочных або ўтоеных элементаў ксенафобіі, ідэалагізацыі навукі, кан’юнктурнасці ці відавочнай пазнавальнай бясплоднасці тут зусім бескарысныя і непрадуктыўныя. Вядома, можна проста адкінуць згаданыя настроі як «адсталыя», аднак тая акалічнасць, што іх прытрымліваецца большасць і яны рэпрадукуюцца ў масавых маштабах на ўсіх паверхах таго, што ва Украіне завуць гістарычнымі ведамі і адукацыяй, прымушае паставіцца да іх сур’ёзна» [7, с. 89]. Галоўныя нараканні з гэтага пункта гледжання выклікае ўплыў ідэалагізаванай гістарыяграфіі ўкраінскай дыяспары і

[1] «Прымардыяльны» можна перакласці як «адвечны», «старадаўні».

вяртанне моцнай народніцкай традыцыі на фоне не цалкам перaадоленага правінцыялізму (побач з суверэнізацыяй гісторыі напярэдадні і асабліва пасля распаду СССР). Заўвагі да «рэтраспектыўнай» гісторыі, засяроджаныя на адмаўленні расійска-ўкраінскіх адносін акрэсленага часу як міжнацыянальных ці каланіяльных.

Часам старонняму назіральніку магло падавацца, што Г. Касьянаў — самотны ў выкрыванні «кананічнай» версіі ўкраінскай гістарыяграфіі як інтэлектуальнага асяроддзя з «моцнымі традыцыямі монаідэалагічнасці, метадалагічнага фанатызму, тэрміналагічнай схаластыкі». Да таго ж, як відаць, нястомны вынаходнік зневажальных эпітэтаў на яе конт [8, с. 44]. Г. Касьянаву ўсё ж пашчасціла болей: ён называе ўкраінскіх гісторыкаў-аднадумцаў В. Шандру і В. Гарабца, якія не думаюць у каардынатах ідэалагічных шаблонаў «патрыятычнай» гістарыяграфіі. Непасрэднае вочнае сутыкненне прыхільнікаў «нарматыўнай» і малакольkaснай «рэвізіянісцкай» гістарыяграфіі, па назіраннях Г. Касьянава, здарылася ўсяго аднойчы. Далей адбываюцца два маналогі, якія зрэдку судакранаюцца, бо ва ўмовах арганізацыйнага адасаблення чэрпаюць фінансавыя ды ідэйныя рэсурсы з розных крыніц [9, с. 68].

Сапраўдныя прычыны касьянаўскага інтэлектуальнага натхнення і веры ў апраўданасць абранай метадалагічнай выспы — напрацоўкі Р. Шпарлюка і А. Мілера. Першы з іх запатрабаваны Г. Касьянавым, які змагаецца ў гістарыяграфіі з эсенцыялізмам [2] і эксклюзівізмам [3] у вывучэнні нацыягенезісу наяўнасцю адваротных перакананняў, адсутных, фактычна, у дыскурсе ўкраінскага гістарычнага мыслення. Р. Шпарлюк разглядае «нацыянальнае адраджэнне» як адмаўленне расійскай і польскай ідэнтычнасцяў і рэалізацыю «ўкраінскага праекта» праз адмову ад перыферыйнасці, непазбежнай у выпадку ўдзелу ў пабудове сучаснай польскай ці расійскай нацыі, як працэс стварэння «мадэрнай» украінскай нацыі шляхам распаду існаваўшых на той час [10, с. 21—24]. Расійскі даследчык пазбаўлены агрэхаў, якія неаднаразова раздражнялі Г. Касьянава ў іншых яго апанентах — украінскага этнацэнтрызму і нераспрацаванасці катэгарыяльнага апарату. Калі першае цалкам чакана, то асаблівасць навуковай культуры, якая сапраўды выгадна адрознівае пецярбургскага гісторыка А. Мілера ад калегаў, якія займаюцца падобнай праблематыкай, — гэта паслядоўнае тлумачэнне ўжытых азначэнняў [11, с. 41—50]. А. Мілер задачу аналізу ўзаемадзеянняў паміж нацыянальнымі ідэнтычнасцямі, што складваліся ў імперскую пару, выканаў у доказнай манеры, супрацьлеглай спробам падначаліць іх логіцы пэўнага, загадзя абазначанага алгарытму — рэалізацыі замежнай інтрыгі ці праграмы нацыянальна-вызваленчага руху. Зазначым, што і ва ўласна ўкраінскай гістарыяграфіі, пакуль як выключэнні, нараджаюцца выразна мадэрнісцкія тлумачэнні. Так, А. Талочка ў духу ідэй І. Лысяка-Рудніцкага і Э. Габсбаўма паказвае передумовы пазнейшай інсталяцыі ў масавай украінскай свядомасці традыцыі шанавання Кіеўскай Русі ў якасці неад’емнай часткі нацыянальнай свядомасці як вынік намаганняў М. Грушэўскага [12, с. 262—264].

Згадзімся з Г. Касьянавым: на слабое прышчапленне на ўкраінскім грунце замежных мадэрнісцкіх тэорый, акрамя іншага, уплываюць таксама такія фактары, як недавер да своеасаблівай, часта павярхоўнай моды на дэканструктывізм ды вытлумачальнае імкненне распрацоўваць тэматыку, рэпрэсаваную за савецкім часам.

Запрашаючы да навуковай дыскусіі, Г. Касьянаў, спецыяліст па XX ст., мяркуем, не выглядае надта пераканаўча, калі абмяжоўваецца пералікам тэм, якія, на яго думку, варта было б узняць, няхай сабе і са спасылкай на піянерскія працы па адпаведных кірунках у заходняй гістарыяграфіі [7, с. 98—105]. Відавочна неабходнасць, насуперак перакананню Г. Касьянава, у дадатковай аргументацыі плённасці прапанаваных падыходаў на прыкладзе канкрэтна-гістарычных даследаванняў. Да таго ж абвяшчэнне аб непрыдатнасці да абранай

[2] Праяўляецца ў прызнанні адвечнага быцця нацыі.
[3] Праяўляецца ў ігнараванні ролі іншых этнічных або нацыянальных супольнасцяў.

навуковай дзейнасці большасці сучасных украінскіх калегаў пры адначасовым разглядзе іх у якасці патэнцыйных спажыўцоў рэтрансляваных заходніх тэарэтычных навацый, мяркуем, дасягне эфекту, адваротнага запланаванаму.

Зробім кароткія высновы. Назіраныя прыкметы парушэння згоды сярод украінскіх гісторыкаў адносна вузлавых пунктаў развіцця ўкраінскай нацыянальнай супольнасці прыўносяць працы «рэвізіяністаў», якія акумулююць імпульсы замежнай украіністыкі, найперш — амерыканскай, а апошнім часам таксама і расійскай. Мадэрністаў калегі не занадта добра чуюць, а абагульненні, ажыццёўленыя ў кнізе «Тэорыі нацыі і нацыяналізму», не атрымалі водгуку і не сталі прадметам актыўнай дыскусіі. На старонках раздзела манаграфіі І. Каленік, адмыслова прысвечанага ўзаемадзеянню ўкраінскай гістарыяграфіі з нацыянальным адраджэннем, няма згадкі аб нейкім уплыве падыходаў украінскіх мадэрністаў. Увага засяроджваецца на напрацоўках гісторыкаў, якія актыўна выкарыстоўвалі паняцце «нацыянальнае адраджэнне» як аналітычную катэгорыю, удакладнялі яе асноўныя параметры і змест [13, с. 204—211]. Г. Касьянаў тым часам шчырые дзеля будучыні, відаць, не надта чакаючы ўдзячнасці ад сённяшняй украінскай аўдыторыі (як вынікае з эпіграфа да аднаго з артыкулаў, узятага з Лукіяна з Самасаты) [14]. Прыгадаўшы логіку разважанняў сірыйца, адзначым, што Г. Касьянаў ужо прымерыў на сябе вобраз чужынца, які не мае бацькаўшчыны, пакуль стварае гістарычны твор. Што датычыцца ўкраінскай гістарыяграфіі, якая займаецца нацыязнаўчай праблематыкай, пануючай тэндэнцыяй, верагодна, будзе заставацца адданасць патрыятычным практыкаванням, аб'ектыўна скіраваным на «дабудоўванне» сучаснай нацыі: намеры ўсвядомлена выконваць сацыяльную замову дэкларуюцца напрамую [15, с. 6]. Таму паняцце «нацыянальнае адраджэнне» як навуковая катэгорыя ўкраінскай гістарыяграфіі, плён высілкаў незалежніцкай думкі і пеставання праз навуку і публіцыстыку нацыянальнай самасвядомасці мае шанец выстаяць і надалей. Тым болей, што існуе і іншая перспектыва інтэграцыі ўкраінскай нацыянальнай гісторыі ў сусветную, напрыклад, праз абгрунтаванне пераемнасці «старой» і «мадэрнай» Украіны даследаваннем кансерватыўнага шляхецкага руху ў XIX ст. [16, с. 382]. Аднак, верагодна, што аб'ём назапашанага крытычнага патэнцыялу, прыдатнага для падрыхтоўкі грунтоўнага метадалагічнага абнаўлення, будзе ўзрастаць.

Дагэтуль справа да стварэння альтэрнатыўнай паўнавартаснай тэорыі ўзнікнення «мадэрнай» украінскай нацыі не дайшла, спыніўшыся на ўзроўні гістарыяграфічных нарысаў ды артыкулаў, крытычных у адносінах да ўкраінскага нацыязнаўчага мэйнстрыму.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Карев, Д. В.* Белорусская и украинская историография конца XVIII — начала 20-х гг. XX в. в процессе генезиса и развития национального исторического сознания белорусов и украинцев / Д. В. Карев. Вильнюс : ЕГУ, 2007. 312 с.

2. *Андерсон, Б.* Воображаемые сообщества. Размышления об истоках и распространении национализма / Б. Андерсон; пер. с англ. В. Николаева; вступ. ст. С. Баньковской. М. : КАНОН-пресс-Ц; Кучково поле, 2001. 288 с.

3. *Геллнер, Э.* Нации и национализм / Э. Геллнер; пер. с англ., ред. и послесл. И. И. Крупника. М. : Прогресс, 1991. 320 с.

4. *Касьянов, Г. В.* Теорії нації та націоналізму: Монографія / Г. В. Касьянов [Электронны рэсурс]. Київ: Либідь, 1999. 352 с. Рэжым доступу: http://litopys.org.ua/kasian/kas13.htm. Дата доступу: 12.02.2010.

5. *Касьянов, Г. В.* Націогенез українців у сучасній історіографії: версії / Г. В. Касьянов // Схід-Захід: Історико-культурологічний збірник. Харків, 2001. Вип. 3. С. 82—100.

6. *Грицак, Я.* Нарис історії України. Формування модерної української нації XIX—XX ст. / Я. Грицак. Київ : Генеза, 2000. 360 с.

7. *Касьянов, Г.* «Пикник на обочине»: осмысление имперского прошлого в современной украинской историографии / Г. Касьянов // Новая имперская история постсоветского пространства: сб. ст. /

Центр Исследований Национализма и Империи; под ред. И. В. Герасимова, С. В. Глебова, А. П. Каплуновского, М. Б. Могильнер, А. М. Семёнова. Казань, 2004. С. 81—108.

8. *Касьянов, Г.* Націоналізація історії: методологічні та термінологічні проблеми (пострадянський простір, 1990-ті роки) / Г. Касьянов // Сучасна українська історіографія: Проблеми методології та термінології. Матеріали науково-методичного семінару, Київ, 17 черв. 2004 р. / Ін-т історії України НАН України; наук. ред. Г. В. Касьянов. Київ, 2005. С. 36—46.

9. *Касьянов, Г.* «Націоналізація історії»: нормативна історіографія, канон та їхні суперники (Україна 1990-х) / Г. Касьянов // Українська історіографія на зламі XX і XXI століть: здобутки і проблеми. Колективна монографія за редакцією Леоніда Зашкільняка. Львів: Львівський національний університет імені Івана Франка, 2004. С. 57—73.

10. *Шпорлюк, Р.* Україна: від імперської окраїни до незалежної держави / Р. Шпорлюк // Схід-Захід: Історико-культурологічний збірник. Вип. 4. Спеціальне видання: Rossia et Britannia: Імперії та нації на окраїнах Європи. Харків, 2001. С. 10—43.

11. *Миллер, А. И.* «Украинский вопрос» в политике властей и русском общественном мнении (вторая половина XIX в.) / А. И. Миллер. СПб. : Алетейя, 2000. 260 с.

12. *Толочко, О. П.* Києво-руська спадщина в історичній думці України початку XIX ст. / О. П. Толочко // Україна і Росія в історичній ретроспективі: Нариси в 3-х томах. Т. 1. Українські проекти в Російській імперії / В.Ф. Верстюк [та ін.] / Інститут історії України НАН України. Київ : Наук. думка, 2004. С. 250—350.

13. *Колесник, І. І.* Українська історіографія (XVIII — початок XX століття) / І. І. Колесник. Київ : Генеза, 2000. 256 с.

14. *Касьянов, Г.* Современное состояние украинской историографии: методологические и институциональные аспекты / Г. Касьянов // Ab Imperio [Электронный ресурс]. 2003. № 2. Режим доступа: http://abimperio.net/cgi-bin/aishow.pl?idlang=2&state=shown&idnumb=27. Дата доступа: 16.01.2010.

15. *Реєнт, О. П.* Український національно-визвольний Рух XIX—XX ст.: проблеми методології та історичної пам'яті / О. П. Реєнт // Проблеми історії України XIX — початку XX ст. / Інститут історії України НАН України. Київ, 2008. № 14. С. 6—10.

16. *Потульницький, В. А.* Україна і всесвітня історія: Історіософія світової та української історії XVII—XX століть / В. А Потульницький. Київ : Либідь, 2002. 480 с.

## РЕЗЮМЕ

В статье анализируются попытки отдельных украинистов реконцептуализировать «украинское национальное возрождение» путем использования модернистской парадигмы для нового прочтения национального фактора в истории Украины. До сих пор дело до создания альтернативной полноценной теории возникновения модерной украинской нации не дошло, остановившись на уровне историографических очерков и статей, критичных по отношению к украинскому нациоведческому мейнстриму.

## SUMMARY

Some ukrainists endeavour to reconceptualyse “the Ukrainian National Revival” by using the Modernist paradigm for new reading of the national factor in Ukrainian history. These attempts were analysed in this article. Until now an alternate full-fledged theory of origin of modern Ukrainian nation is not completed, its creation has stopped at the standard of historiographical essays and articles, which are critical towards mainstream studies of Ukrainian nation.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 12 студзеня 2011 г.